

*„Людзьмі звацца!“*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 1 чэрвеня 1990 г. № 22 (3536) ⊙ Цана 10 кап.






Слухаем сесію...

Фота Я. КОКТЫША.




## «...ЖЫЦЬ У ДРУЖБЕ НАМ І МІРЫ»



Гэты паэтычны радок з «Веча славянскіх балад» Я. Сіпакова мог бы стаць дэвізам усесаюзнага Свята славянскага пісьменства і культуры, якое праходзіла ў Мінску 24—27 мая. Частку матэрыялаў, прымеркаваных да гэтай значнай падзеі, «ЛіМ» змясціў у мінулым нумары. Сёння прапануем увазе чытачоў своеасаблівую «святочную мазаіку», якую падрыхтавалі нашы карэспандэнты С. Берасцень, П. Васілеўскі, В. Лапцік, А. Марціновіч і У. Крук.

## З пошты «ЛіМа»

# • БЯДА Ў НАС АГУЛЬНАЯ
# • ВОСЬ ДЫК АГІТАЦЫЯ!
# • ДЗЕ ТАЯ ВУЛІЦА?

□

**Да вас звяртаюцца** жыхары Віцебска — бацькі дзяцей хворых на вострыя лейкоз. Напісаць гэты ліст прымусіла нас агульная бяда. Справа ў тым, што Мінскаму гематалагічнаму цэнтру зараз аказана дапамога. Гэта радуе і абнадзейвае. Але на нашых дзяцей ніхто не звяртае ўвагі. А колькасць хворых тым часам расце. Калі тры гады назад у адпаведным аддзяленні Віцебскай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы быў адзін чалавек, то цяпер 20, плюс столькі ж памерла.

Урач Святлана Рыгораўна Герасімчук з любоўю і клопатам ставіцца да хворых пацыентаў. Але ў яе няма ніякіх умоў для таго, каб займацца лячэннем дзяцей, проста ратаваць іх ад смерці. Па-першае, няма асобных палат: цяпер дзеці ляжаць па восем чалавек у пакоі, прычым сярод іх — з самымі рознымі дыягназамі, у тым ліку і з вострай рэспіратарнай вірусная інфекцыяй, што вельмі небяспечна.

Вось ужо трэці год абяцаюць выдзеліць спецыяльныя палаты для нашых дзяцей, але воз і цяпер там. Няма лякарстваў, аднаразовых шпрыцоў.

Мы са старонак «ЛіМа» звяртаемся ў Міністэрства аховы здароўя рэспублікі з просьбай аб неадкладнай дапамозе. Тое, што дзеці так цяжка хварэюць, гэта наша гора, бяда, але не віна, бо ў свой час кіраўнікі рэспублікі схавалі ад нас, што ў пэўных рэгіёнах Беларусі небяспечны ўзровень радыяцыі. Некаторыя будучыя мамы перыяд цяжарнасці правялі ў забруджаных раёнах, дзеці нарадзіліся хворымі. Іншыя ж хлопчыкі і дзяўчынкі адпачывалі ў бабуль у Гомельскай і Магілёўскай абласцях. Мы ж не ведалі, што гэта небяспечна.

**Н. БОГДАН, А. ЯКУБАВА, Л. ЯФРЭМАВА, Т. ГОЛУБЕВА, Г. ГУДКОВА, усяго 13 подпісаў.**

г. Віцебск.

□

**Слова «ўра»** здавён перайшло ў рускую мову з цюркскай (татарскай). З рускай — у беларускую. А ці ведаюць нашы палітыкі, ідэолагі, што азначае гэтае слова? Баявы кліч «ура-г-у» прыйшоў на нашы землі з часоў нашэсця татара-манголаў, і на цюркскай мове азначае «смерць». А цяпер удумайцеся ў лозунгі: «Ура савецкаму народу!» «Ура КПСС!» «Няхай жыве КПСС! Ура!» «Няхай жыве непарушная дружба! Ура!» і г. д. Дык, можа, час растлумачыць па радыё, ТБ, у прэсе, што «ўра» — гэта «смерць» і выкінуць гэты страшны кліч з рускай, беларускай і ўкраінскай моў. Ёсць жа словы «слава», «няхай жыве» ды іншыя. У чэшскай, сербскай, славацкай, славенскай мовах слова «ўра» няма. Напрыклад, у чэшскай гэты лозунг гучыць «на здар», у польскай «нех жые!».

**М. ВАСІЛЬЧАНКА, урач.**

г. Мінск.

□

**Я з'яўляюся старшынёй** першаснай суполкі Таварыства беларускай мовы ў інфармацыйна-вылічальным цэнтры Міністэрства фінансаў БССР. Суполка ўтварылася 27 кастрычніка 1989 г., зараз уваходзіць у Маскоўскую раённую арганізацыю ТБМ.

За час нашай дзейнасці мы заўсёды сустракалі сардэчнасць і спагаду супрацоўнікаў нашай установы, шчырую зацікаўленасць і дапамогу. Але так было толькі да той пары, пакуль мы не пачалі кампанію па зборы складак (уступных і гадавых) сярод сяброў суполкі. Я раптам пачала адчуваць нейкае процідзеянне — тым больш незразумелае, што раней тыя ж людзі ахвяравалі сродкі і на больш рызыкоўныя мерапрыемствы.

Неўзабаве паявілася разгадка гэтай таямніцы...

Аб'ява заклікала на пашыранае пасяджэнне партбюро, на якім планавалася абмеркаваць работу камітэта камсамола, групы народнага кантролю, добраахвотнай народнай дружыны і... — мне адразу і нязнацяы было, што ж гэта значыць, — «товарищеского общества «Суполка»!

Ініцыятарам гэтага пасяджэння быў намеснік сакратара партарганізацыі В. Драгун, які распачаў у калектыве апантаную агітацыю супраць дзейнасці суполкі ТБМ. Маўляў, не трэба здаваць грошы на гэтую арганізацыю, бо гэтыя сродкі пойдуць... на антысацыялістычныя мерапрыемствы (?!).

Не цяжка здагадацца, як такая агітацыя паўплывала на тых, хто яшчэ нядаўна ва ўсім падтрымліваў нас. Кола сяброў ТБМ рэзка звузілася.

Яшчэ больш прыкрыя падрабязнасці выявіліся на самім пасяджэнні. Як высветлілася, тав. Драгун не губляў часу дарма, а збіраў - на мяне сапраўднае дасье: запісваў усё, што, на яго думку, у маёй дзейнасці і словах супярэчыла яго, так бы мовіць, ідэалагічным установкам.

Дасталося не толькі мне асабіста, але і нашай суполцы ТБМ. Аказваецца, мы вялі толькі «рекламную деятельность». Вось так. Высакародная мэта адрадзіць нацыянальную мову, культуру, гістарычную памяць — усяго толькі «рекламная деятельность». Была нават спроба паказаць распаўсюджванне «Нашага слова» як «продажа самиздатовской запрещенной литературы».

Канчатковае рашэнне партбюро прыняло без мяне. Відаць, нехта з прысутных падкарэкціраваў праект пастановы, бо там ужо няма дзікіх абвінавачванняў. Засталося так дакладна: «Обратить внимание зав. отделом Деменчук Т. А. на некорректное отношение и необоснованные претензии к членам других общественных формирований, завязывание взглядов неформальных объединений, что отрицательно сказывается на морально-психологическом климате в коллективе и ведет к его расколу».

Нават пасля адмены 6 артыкула Канстытуцыі, партыйнае бюро, відаць, лічыць, што яно — «напраўляючая і кіруючая сіла», што мае права метадамі ідэалагічнага дыктату прымушаць думаць так, як яно.

**Т. ДЗЕМЯНЧУК, старшыня першаснай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны ІВЦ Мінфіна БССР.**

□

**У рэспубліканскім друку** і ў «ЛіМе», у прыватнасці, неадночы паведамлялася аб тым, што з боку Беларусі будуць рабіцца захады перад Мінфінам СССР аб выпуску ў 1990 г. памятнай манеты да 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны. Большасць беларускіх нумізматаў гэта пытанне лічаць ужо вырашаным і цяпер з нецярпеннем чакаюць выхаду юбілейнага «скарынаўскага рубля».

Але вось зусім нядаўна ў кнігарнях з'явіўся каталог І. В. Якаўлева «Советские юбилейные и памятные монеты», выдадзены ў Маскве ў выдавецтве «Финансы и статистика» ў 1989 г. У гэтай кнізе прыводзіцца пералік усіх савецкіх юбілейных і памятных манет, а таксама план выпуску манет з 1990 па 2005 г. Паглядзім, якія манеты плануе выпусціць у 1990 годзе Міністэрства фінансаў СССР. На старонцы 25-й каталога чытаем: 1990 год: 150 гадоў з дня нараджэння П. І. Чайкоўскага; 130 год з дня нараджэння А. П. Чэхава; 125 год з дня нараджэння Яніса Райніса; Успенскі сабор. 1479 г. Масква; Пецяргоф. 18—19 ст. Ленінград... Як бачым, у Маскве не плануюць выхад «скарынаўскага рубля»...

**А. СЯРОЖКІН.**

г. Орша.




Малюнак А. ГУРСКАГА.

□

**У наступным годзе** мы будзем святкаваць 100-годдзе з дня нараджэння славутага беларускага паэта Максіма Багдановіча. Думаем, што да гэтай памятнай даты трэба прымеркаваць перайменаванне вуліцы М. Горкага на вуліцу М. Багдановіча, імя якога займае ў свядомасці беларусаў і ў нашай літаратуры адметнае месца. Гэта было б справядліва і спрыяла б адраджэнню беларускай культуры, якое намецілася ў апошнія гады.

На вуліцы, пра якую ідзе гаворка, стаяў дом, дзе нарадзіўся паэт (цяпер дом № 25). На ім вісіць памятная дошка. Побач, ля опернага тэатра, — помнік Багдановічу, у Траецкім прадмесці знаходзіцца яго літаратурны музей.

Сам Максім Горкі, калі б ён зараз жыў, ухваліў бы гэта перайменаванне. Ён ведаў Максіма Багдановіча, уважліва сачыў за развіццём маладой беларускай літаратуры і аказваў ёй дапамогу. Да таго ж, Максім Горкі і Максім Багдановіч былі сваякамі.

Такі крок у адраджэнні гістарычнай справядлівасці ні ў якім разе не супрацьпаставіць аднаго пісьменніка другому, а з'явіцца натуральным, зафіксуе ў памяці месца нараджэння паэта і будзе правільна ўспрынята жыхарамі Мінска.

**А. ГУРКОЎ, Ю. СКРЫГАН, А. ДЗЯРНОВІЧ, А. МЯСНІКОВА, М. АПЕЙКА, Г. НАУМОВІЧ, В. ДРЫБА — жыхары вуліцы М. Горкага і суседніх вуліц (усяго 140 подпісаў).**

□

**Мы, турысты-краязнаўцы** з Навагрудка, у час вандроўкі ў Мір размаўлялі з рэстаўратарамі. Няхай сабе павольна, няхай сабе са скрыпам ідзе рэстаўрацыя — усё адно радуецца душа, што адраджаецца помнік дойлідства. Але калі гаворка датыкнулася адраджэння навакольнага парку, высветлілася, што зашуміць гэты парк у значнай сваёй частцы за кошт «пасадачнага матэрыялу» паркаў у Варончы і пасёлку Першамайскі, што паміж Турцом і Ярэмічамі. Аслупянела, пачуўшы такое, бо адразу ўявіла сабе, як наша «асцярожная рука», узброеная экскаватарамі і кранамі, аблюбаваўшы «пасадачны матэрыял», выкарчоўвае яго, знішчаючы яшчэ дзесяць дрэў навокал, зрываючы траву і пакідаючы пачварныя яміны! Што гэта менавіта так будзе выглядаць, сумнення няма. Успомніце, што застаецца каля вашага дома пасля таго, як рамонтнікам спатрэбіцца пракапаць нават невялікую канаву.

Дык, можа, і не патрэбныя гэтыя паркі? Можа, зажывуць «новым жыццём» на другім месцы?

Адзін з іх — у пасёлку Першамайскім — памятаю і люблю з дзяцінства, бо недалёка жылі мае дзяды. Так, ён запушчаны, забруджаны, з кожным годам усё меней былой прыгажосці, але і зараз уражвае, кранае сэрца сумам. Такое ж пачуццё прыходзіць у знявечаным храме. Уражанне ад таго, што маглі калісьці стварыць чалавечыя рукі, і сорам — у што гэта можаператварыцца ад бяспамяцтва нашага.

Спытайце ў мясцовых жыхароў, у жыхароў Варончы, згодны яны, каб іхнія паркі ператварыліся ў «пасадачны матэрыял»?

Ці можна будзе пахваляцца нават самым прыгожым паркам у Міры, ведаючы, што дзеля яго знішчылі два іншыя? А, можа, лепей меціць тры паркі?

Цікава даведацца, хто ж такую разумную галаву мае, у чыіх вынаходлівых мазгах нараджаюцца такія суперрацыянальныя ідэі? Самае сумнае, што іх вельмі лёгка ажыццявіць, сабраўшы некалькі подпісаў пад праектам-дазволам, выкрэсліваючы з нашага жыцця яшчэ кавалачак нашай гісторыі і культуры. А што, адразу двух зайцоў забіваем: танна і хутка атрымліваем вынік рэстаўрацыі і — змяншаецца колькасць аб'ектаў, якія патрабуюць рэстаўрацыі!

Дык давайце пойдзем і далей: не хапае будматэрыялаў на рэстаўрацыю — разбяром менш каштоўныя помнікі і выкарыстаем іх дзеля рэстаўрацыі больш каштоўных. Альбо раскарчуем Батанічны сад і раздзелім «пасадачны матэрыял» паміж дачнікамі. Ужо ўвосень пойдзе ў гору выкананне харчовай праграмы!

**Таццяна ЦАРУК, кіраўнік гуртка турыстаў-краязнаўцаў.**

г. Навагрудак.

